Год VI. Кастрычнік № 11 (71).

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я  
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!  
Занімай, Беларусь маладая мая,  
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1934 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны —Вільня, Завальная вул. №

ЗЬМЕСТ № 11:



**Дзень 31 кастрычніка ёсьць Міжнародным Днём Ашчаднасьці, дык прыпомніма і мы ўсе, колькі выдалі безпатрэбна грошай, змарнавалі часу, адзежы і інш. І пастанавема больш так далей не рабіць!**

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.
Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — А, а. | J, j — Й, й. | R, r — Р, р. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — С, с. |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к. | T, t — Т, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — М, м. | V, v — В, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — Н, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — Х, х. | O, o — О, о. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — І, і. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |


# „Шлях Моладзі“
МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . 50 гр.

„ на паўгода. . . . . 1 зл.

„ на год . . . . . . 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі**: Вільня (Wilno), Завальная № 1 — 3

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

| Год VI. | Вільня, Кастрычнік 1934 г. | № 11 (71). |
| --- | --- | --- |


* * *

Жыцьцё няласкава і хмура.
Няшчасьце нам васковіць твар,
Наш лёс усьцяж цяжкі, пануры,
Хоць ў думках бунт, а ў сэрцы—жар.

А дні ідуць... і дні якія?
Юнацкім ўздымам сьняцца сны.
Расьце уздым і сілы маладыя,
Ды расьцьвіцець няма вясны.

Краіна Родная!.. Мы — ўпарты!
Знасілі і зьнясём усё.
Хоць цяжка нам стаяць ня варце
І вартаваць заспанае жыцьцё!

Наш лёс цяжкі, і сумны...
Няшчасьце нам васковіць твар.
Адным мы толькі моцны й думны —
Ўсё для Цябе — на Твой аўтар!

**М. Машара.**

## ПРАБУДЖЭНЬНЕ.

Устаньце браточкі, ўстаньце — пара!
Вазьмеце сьвяцільнік у рукі,
Час ўжо ісьці ад сяла да сяла
Сьвяціць сьвятлом праўды, навукі.

Убачыўшы сьвет можа й наш беларус
Пачуе ў сабе цьвёрду волю —
І ускрасіўшы сваю Беларусь
Будзе тварыць лепшу долю.

Сьвяціце-жа ясна, каб з нас ніадзін —
Ня мог заблудзіцца ў цямноце,
І простую сьцежку прыкладам сваім
Паказвайце ў шчырай ахвоце.

Сьцежкаю той, каб усе мы пайшлі
Злучаць свае родныя гоні.
Ды на чале з сабой каб нясьлі
Наш сьцяг беларускай Пагоні!

**Янка Невук.**

Ад. Станкевіч.

# Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня. 7)

*З нагоды 70-лецьця сьмерці К. Каліноўскага, рэд. „Мужыцкай Праўды“ (†1864) і 50-лецьця „Гоману“ (1884)*

### VI. „Гомон“ і яго беларускія вызвольныя імкненьні.

„Гомон“ — гэта часопісь беларускіх рэволюцыянэраў. Выдавалася яна шапіраграфскім спосабам, пісана парасейску, фармату больш-менш нармальнага сшытка; гдзе выходзіла — няведама; часопісь гэта, ясная рэч, выходзіла нелегальна, а дзеля гэтага не магла падаваць свайго адрасу. Можна дагадвацца, што выходзіла яна ў Пецярбурзе, дзе быў галоўны цэнтр беларускай студэнскай моладзі. Др. Т. Грыб у ўспомненых вышэй „Iskrach Skaгуnу“ цьвердзіць, што часопісь гэта выходзіла ў Менску. Цьверджаньня аднак свайго нічым ён не даказваець.

Ведамы „Гоману“ № 2. Сам розум кажа, што калі быў № 2, дык мусіў быць і першы. Гавора аб гэтым так-жа і № 2, у якім, на пачатку першага артыкулу „Бѣлорусское революціонное обозрѣніе“ з датай 15 лістапада 1884 г., чытаем даслоўна: „Прошло около года с тѣх пор, как появился первый № „Гомона»; мы вовсе не думали обрекать себя на столь долгое молчаніе, всему причиной „независящія от нас обстоятельства“, слишком измѣнчивыя в наши дни“. Успамінаецца так-жа аб № 1 «Гоману» і ў артыкуле другім гэтай часопісі:„Внутреннее обозрѣніе“. З гэтага выглядае,што мусіў быць „Гоману“ і нумар першы. Аднак покуль няма сусім пэўных вестак, што ён сапраўды быў, што хоць яго і няма цяпер нідзе, але што нехта яго бачыў, датуль абсалютнай пэўнасьці аб яго выхадзе няма, бо-ж не забывайма, што „Гоман“—часопісь рэволюцыйная, антыдзяржаўная, падпольная, дык надта магчыма, што рэволюцыянэры нашы выдалі адразу нумар другі, а аб першым успомнілі, каб нарабіць больш хлопатаў і загадак паліцыі. 50-лецьце такім чынам „Гоману“ у сёлетнім годзе больш мае падстаў, як бы мела ў мінулым, калі-б мы хацелі гэты юбілей датарнаваць да часу выхаду „Гоману“ нумару першага.

Адзін арыгінальны экзэмпляр «Гоману» нумару другога, а так-жа адзін экзэмпляр одпісу з яго знаходзіцца ў Беларускім Музэі ў Вільні. Для гэтай працы карыстаўся я одпісам.

Пасьля гэтых агульных уваг аб „Гомане“ прыступім да бліжэйшага разгляду яго паводле таго парадку, у якім разложаны ў ім матарыял.

## § 1. „Бѣлорусское революцiонное обозрѣнiе“.

Гэтак названы першы артыкул „Гоману“. Падаём ніжэй галоўны зьмест яго, галоўныя мясцы цытуючы даслоўна парасейску.

— У грамадзкім жыцьці Расейскай Імпэрыі — чытаем ў гэным артыкуле — заўважваецца няўхільнае імкненьне да рэвалюцыі. Урад сваім гнётам гэтай рэвалюцыйнасьці толькі памагае. Апазыцыя, да якой належаць групы лібэралаў аж да тэррорыстаў, расьце і разьвіваецца. Адчуваецца патрэба супольнага гэтых груп фронту. Аднак трэба жадаць ня толькі супольнага фронту апазыцыйных да цара груп, але так-жа і самастойнасьці гэтых груп: „...приходится пожелать очень и очень многаго не только в отношенiи совмѣстной борьбы, но и по отношеоiю к самсстоятельному начинанiю“.

Да апошняга часу, праўду кажучы, сапраўды барацьбу з царызмам праводзіць адна партыя „Народной Воли“, а іншыя групы толькі займаюцца гутаркай і крытыкай. Павінны існаваць партыі самастойныя, але яны павінны бароцца толькі разам усе. Дзеля гэтага вітаем „присоединенiе польской партыі „Пролетарiата“ к организацiи «Народной Воли» в их заимных оффицiальных об'ясненiях в 10 № „Народной Воли“. Мы соцыялісты-Беларусы імкнемся заняць у гэтай адзінай актыўнай партыі адпаведнае да сілы нашай групы месца, каб бароцца для справы так важнай для самай Беларусі. Апрача нашай помачы «Нар. Волі» для барацьбы з урадам „мы внесем в сознанiе членов этой партыіи практическую возможность федеративной самостоятельности Бѣлоруссiи в будущем и необходимость подготовки этой самостоятельности в настоящее время“.

У прынцыпе й цяпер гэта партыя стаіць „за федеративность областей Россiи“, што яна няраз выказвала; але фактычна на такую самастойнасьць можа разьлічаць „только та из областных груп“, каторая будзе рука аб руку ісьці ў барацьбе з „дѣйствующей партiей“ і мець сваіх прадстаўнікоў дастатачна абзнаёмленых з месным патрэбамі. Наколькі мала адно прынцыповае прызнаньне „самостоятельности областей“ можа гварантаваць яе на практыцы, гэта паказвае выступленьне Тихомірова ў № 2 „Вѣстника Нар.Воли“, гдзе ён гавора аб „неумѣстности“ і „искусственности“ тварэньня новых нацыянальнасьцяў. Так мала яшчэ сьведамасьці аб практычнай неабходнасьці палітычнай і эканамічнай самастойнасьці «областей», што аўтор гэны не пастараўся нават даказаць гэту „неумѣстносьць“ і „искусственность“, загадзя, відаць, разьлічваючы на ціхую згоду чытачоў.

Мы, ведама, за гэта на Тихомірова не наракаем, бо ён у фэдэрацыйных імкненьнях бачыць аслабленьне палітычнай

проціцарскай барацьбы ў цэнтры. Тым больш гэта яму можна даравацъ, што самы гарачы прапаведнік нацыянальнай фэдэратыўнасьці Драгоманов апошнім часам многа папрацаваў для пашырэньня гэткага пагляду на фэдэралістых. Але ўсёж-дыкі Тихоміров ня мае падстаў паклікацца на «искусственность», як на доказ непатрэбнасьці стварэньня фэдэрацыяў, бо ўсе формы грамадзкага жыцьця творыць чалавек. Тым больш ня мае рацыі Тихоміров, калі Бакунін, Драгоманов і іншыя, гаворачы аб разьдзеле Расейскай імпэрыі на натуральныя фэдэрацыі, разам з Польшчай і „Малороссіей", ставяць так-жа і Беларусь. Нават урад „преслѣдуя идеал казарменнага единообразія, считается с ней (з Беларусяй — А. С.), как с областью своеобразной и существует цѣлый ряд экономических и административных мѣст, касающихся спеціально Бѣлоруссіи. Конечно, в народѣ пока еще нѣт сознательнага стремленія к федеративной независимости в том ея видѣ, как это понимает інтеллигенція, но необходимость этой независимости вытекает из сознанія народом свей розни от сосѣдей, эта самостоятельность вытекает из экономических и климатических условій Бѣлоруссіи, много отличных от условій других областей Россіи, из оригинальности характера самого народа". Расейскі народ так-жа нясьведамы важнасьці палітычнай свабоды і так-жа не разумее вымогаў навучнага соцыялізма, а ня гледзячы на гэта, народавольцы дабіваюцца аднаго і другога пад сьцягам Народнай Волі іменна затым, што глядзяць шырэй на патрэбы народу і разумеюць лепей сродкі іх здаваленьня.

„Но если практическое подготовленіе почвы для федеративной самостоятельности важно для каждой области вообще, то для Бѣлоруссіи эта необходимость является еще болѣе настоятельной и неизбѣжной."

Для Польшчы і Украіны гэта ня стольні патрэбна. Для сваей самастойнасьці яны маюць прыгатаваны грунт. У Беларусі з гэтым дрэнна, „что и заставляет бѣлорусскую интеллигенцію заранѣе позаботиться о приготовленіи условій для самостоятельности страны". Асабліва трэба старацца ўзгадаваць народную інтэлігенцыю, бо цяперашняя наша інтэлігенцыя звычайна выходзіць „из паразитнага класса поляков помѣшчиков или из бюрократіи". Нігдзе, як ведама, няма такой розьніцы між народам і інтэлігенцыяй, як у Беларусі. Вось-жа інтэлігенцыя, якая была б блізкай да паняцьцяў і патрэб народу, аказала-б вялікую услугу пры новых варунках грамадзкага жыцьця, якое наступіць пасьля перавароту.

Ды — й для самай цэнтральнай партыі мясцовыя арганізацыі маюць вялікае значэньне. Пасьля перавароту першай для яе задачай будзе абяспечыць рэформы, патрэбныя для народаў усіх „областей" бяз вынятку. Яна павінна бу-

дзе дапасавацца да абычаяў, а так жа да эканамічных і іншых асаблівасьцяў кожнай вобласьці. Паляк, украінец, вялікарус, прымаючы ўчасьце ў цэнтральнай барацьбе з урадам, у пэўнай меры ўжо гэтым самым зьяўляецца прадстаўніком інтарэсаў свайго народу з увагі на сваю рэальную блізкасьць да яго. Тымчасам беларус можа быць прасякнуты народнымі сымпатыямі толькі ідэйна і наўрад ці бяз сьведамай падгатоўкі можа лічыцца пажаданым прадстаўніком сваей бацькаўшчыны і выклікаць да сябе большы давер, як цяперашняе чынавецтва. Ведама, што ўсё ідэйнае толькі тады сапраўды прыгожае і творчае, калі яно зыходзіць на зямлю, калі яно бліжэй да рэальнага зьдзейсьнення ў штодзенным жыцьці. „Адумысловы плян дзеяньня павінен быць дзелам мясцовых арганізаваных групаў, якія зорка сочаць за ўсімі зьменамі і эканамічнымі фактамі“ — кажа Лвваров. Зусім справядліва і неабходна выбраць для сваей дзейнасьці месца, народ і мову, дзе можна дапусьціцца найменш абмылак і найбольш зрабіць добрага, гэта знача — сваю бацькаўшчыну — кажа той-жа Лавров.

Зусім ясна такім чынам, што стараннае пазнаньне мясцовых асаблівасьцяў Беларусі, зразуменьне практычных інтарэсаў народу будзе карысна ня толькі для Беларусі, але і для цэнтральнай партыі, з якой беларуская інтэлігенцыя будзе арганічна зьвязана пры помачы арганізацыі.

Мы знаем некулькі спробаў з боку цэнтральнай партыі арганізаваць у многіх гарадох Беларусі свае мясцовыя групы і нават друкарні. Пры гэткай пастаноўцы справы ўсе знаёмствы, усе зьвязкі цэнтральнай партыі павінны перайсьці пад загад мясцовай беларускай партыі. Дзеля лепшага знаёмства з мясцовымі варункамі, функцыі мясцовых арганізацыяў цэнтральнай партыі будуць выконвацца лепш, бо мясцовая інтэлігенцыя, апрача плянаў цэнтральнай партыі, будзе ажыўлена сьведамасьцяй інтарэсаў Беларусі і дзякуючы адзыўчывасьці беларускай арганізацыі ні адзін месны рух, ні адзін удар пульсу народнага жыцьця ня згіне дарма для барацьбы. Гэткая пастаноўка дзейнасьці беларускай групы тым больш зьяўляецца магчымай, што цэнтральная група партыі „Народнай Волі“ дае месным арганізацыям поўную самадзейнасьць у галіне дзеяньня гэтай групы, наскольк яна не перашкаджае свабоднай дзейнасьці ў цэнтры.

Адгэтуль аднак не вынікае, каб усе сілы беларускай арганізацыі кіраваць выключна дзеля працы ў Беларусь. Тут зважаць трэба з аднаго боку на здольнасьці самых сяброў арганізацыі, а з другога — на патрэбы барацьбы ў цэнтры.

Само сабой зразумела, што тыя людзі, якія дастатачныя пусьцілі карэньні ў Беларусі і дзеля тых ці іншых прычын ня могуць прыняць беспасрэднага ўчасьця ў цэнтральнай

барацьбе, астануцца на бацькаўшчыне, дзе ў меру сваіх сіл будуць падгатаўляць грунт для грамадзкага абнаўленьня краю, а не здавольвацца, злажыўшы рукі, адным толькі спагадам, як гэта было дагэтуль.

„Вот основные пункты нашей програмы, деталичныя подробности которой не замедлят появиться в особом изданіи. В послѣднее время возникло много своеобразных и произвольных толкованій нашей програмы; кромѣ того среди самой бѣлорусской интеллигенціи образовалось много кружков, а вмѣстѣ с тѣм столько-же практических рѣшеній бѣлорусского вопроса. Радуясь такому возбужденію вниманія к участіи родины, мы тѣм не менѣе должны заявить, во избѣжаніе всяких недоразумѣній, что всѣ они пока имѣют мало общаго с нами. Вслѣдствіе этаго мы просили бы не судить о нашей програмѣ на основаніи толков лиц, не принадлежащих к нашей организаціи. Мы отвѣчаем лишь за то, что будет появляться в нашем органѣ, или в особом изданіи от групы „Гомона". Іто же касается наших отношеній к бѣлоруским кружкам, образовавшимся, как нам извѣстно, в нѣкоторых университетских центрах среди молодежи, то они опредѣляются нашей програмой. Так как главной задачей бѣлоруссов является пропаганда федеративной самостоятельности Бѣлоруссіи, то, полагая, что лучшая часть этих кружков неизбѣжно должна будет примкнуть к нашей постановкѣ дѣла, мы постараемся завести самыя тѣсныя сношенія для болѣе близкаго знакомства з нашей программой.

В заключеніе скажем, что наша задача представляет для своего существованія много трудностей, которыя нам предстоят как со стороны инертности бѣлорусской интеллигенціи, так и со стороны косности ходячих понятій і мнѣній о федерализмѣ Но как бы не велики были эти трудности, мы, насколько это будет в наших силах, положим первый камень для фундамента федеративной самостоятельности, Бѣлоруссіи.

Был-бы сдѣлан первый шаг, для продолженія же дѣла выступят, несомнѣнно, новыя сілы с большей энергіей и увѣнчают дѣло успѣхом".

Гэтак выглядае зьмест першага артыкулу „Гомана." Далей будзем знаёміцца з артыкуламі наступнымі.

---

* * *

Блiснула зор чарада, адбiлася ў хмарах празрыстых,
Ў цёмным блакiце нябёс блiснула зор чарада...
Шэпча рачная вада. Белым срэбрам сьлязiначак чыстых
Ўпала на зямлю раса. Шэпча трава і вада...

**А. Бярозка.**

## Žyćcio ŭściaž burlić...

(*Z nahody apošnich padziejaŭ i 25-cilećcia H.H.B.M.*).

9 kastryčnika sioleta ŭ Francyi charvackija emihranty z Juhasłavii zabili juhasłavianskaha karala Aleksandra I. Fakt hety ŭzvarušyŭ uvieś śviet. Hazety prarakujuć vajnu i inšyja strašnyja padziei. My hetymi praroctvami zajmacca tut nia budziem; śćvierdzim adno, što karala Aleksandra zabili pradstaŭniki narodu, jaki ŭ Juhasłavii nie karystajecca roŭnymi pravami z panujučym narodam serbskim i zmahajecca za svaju niezaležnaść.

Kali my hlaniem krychu šyrej, dyk ubačym, što sioleta heta ŭžo nia pieršaje zabojstva na hruncie adnosinaŭ dziaržavy da svaich niedziaržaŭnych narodaŭ, h. zv. nacyjanalnych mienšaściaŭ. Zaŭvažym my tak-ža, što na hetym samym hruncie dajšło da kryvavaje baraćby miž kataloncami i hišpanskim uradam. Słovam, prakanajemsia, što zmahańnie za žyćcio ad sporaŭ, pratestaŭ i stukańnia kułakami ŭ stoł pierajšło da revolvaraŭ i bombaŭ. Heta biazumoŭna moža daviaści da vajny, jakaja, niščačy śviet, źniščyć napeŭna sučasnyja hranicy, abo moža zmusić kožnuju dziaržavu ŭ siabie ŭnutry ci ŭ raźmiery mižnarodnym šukać sposabu źlikvidavańnia hetaje baraćby. Jak-by jano tam nia było, ale biez revizii hranic nie abydziecca. Skarystajuć z hetaha, jasna, tyja narody, katoryja buduć pradstaŭlać saboj, kali nia fizyčnuju, dyk moralnuju siłu i stojka buduć baranić svaich pravoŭ.

Biełaruski narod, u zmahańni za lepšaje zaŭtra, za akančalnuju metu stavić sabie niezaležnaść. Treba adnak skazać, što pamima ŭzrastańnia narodnaje śviedamaści, apošnim časam biełarusy traciać toje, što raniej zdabyli. Jaŭnym dokazam hetaha jość pastupovaja likvidacyja biełaruskaha školnictva dla biełarusaŭ u sučasnaj Polščy i niščeńnie biełaruskaha nacyjanalna adradženskaha ruchu ŭ SSRR. U Zach. Biełarusi idzie da taho, kab zatamavać dapłyŭ biełaruskaje intelihiencyi — hetaha najvažniejšaha i najbolš ruchavaha elementu, biez jakoha trudna vyabrazić sabie zmahańnie za lepšuju dolu. Dziela hetaha našym abaviazkam jość usie pieraškody pieramahčy! — Ale jakim sposabam? — Škołaŭ my svaich zaraz nie zdabudziem.

Pry dobraj adnak achvocie i niemahčymaje stanovicca mahčymym. Jak ja ŭžo zaznačyŭ, śviedamaść biełaruskaja ŭ narodzie, asabliva siarod moładzi, raście. I voś, moładź naša, jakaja jdzie ŭ čužyja škoły, usiož-taki stykajecca z jeju, a navat byvaje, što ŭžo śviedamyja adzinki papadajuć u školu. Dyk chodzić adno ab toje, kab hetaja moładź była mocnaja, kab mieła łučnaść z biełaruskim centram i svaje biełaruskija pahlady mahčyma jak najdalej pašyrała. Kali biełaruskaja moładź vučačysia ŭ čužoj škole jość zusim addzielena ad biela-

ruskaści, abaviazkam kožnaha śviedamaha biełarusa jość paznajomić jaje z biełaruskim adradženskim rucham, biełaruskaj literaturaj, historyjaj, ahułam navukaj i h. d. Praca ŭ hetym kirunku daść nam napeŭna dobryja vyniki.

Dumki hetyja dziŭnym trafam spatykajucca sioleta vosieńniu, kali jakraz prypadajuć 25-tyja ŭhodki zasnavańnia „Horadzienskaha Hurtka Biełaruskaje Moładzi".

„Horadzienski Hurtok Biełaruskaje Moładzi", jaki biazumoŭna zajmie adno z najpryhažejšych miesc u historyi ruchu biełaruskaje moładzi, paŭstaŭ uvosieni 1909 h.*) Hurtok hety nazyvaŭsia H.H.B.M. Byŭ jon nielehalnym, a naležali da jaho himnazisty i himnazistki rasiejskaje himnazii. Zakładčykami i kiraŭnikami hurtka spačatku byli Ks. Fr. Hrynkievič (prefekt himnazii, jaki hod tamu pamior) i vučań 7-aj kl. Adam Byčkoŭski (ciapier advakat). U skład pieršaha ŭradu hurtka byli vybrany A. Byčkoŭski — staršynia, P. Aleksiuk — vice-staršynia, Z. Abramovič — sekretar i L. Sivickaja (ciapier hram. Vojcikava) — biblijatekarka.

Pracu svaju hurtok raspačaŭ zakładajučy biblijateku i ładziačy raz u tydzień lekcyi, na katorych čytalisia i raźbiralisia ttvory biełaruskich paetaŭ i piśmieńnikaŭ i prachodziłasia historyja i gieografija Biełarusi. Hurtok hety raspaŭsiudžvaŭ bieł. knižki, časopisi i kalendary, a paśla pačaŭ ładzić nielehalna viečaryny, pradstaŭleńni i nia tolki ŭ pryvatnych chatach u Horadni, ale i na vioscy. Mieŭ hurtok svoj chor pad kiraŭnictvam vučnia J. Laŭkoviča i ładziŭ supolnyja prahułki — „spacyry" za miesta, nad Nioman, dzie adbyvalisia vystupleńni choru i čytalisia referaty. Lik siabroŭ uściaž pavialičvaŭsia, tak, što hurtok byŭ padzieleny na 3 sekcyi: staršuju, siaredniuju i małodšuju. Staršyja i siarednija zajmalisia literaturaj, historyjaj i gieografijaj Biełarusi i kiravali małodšaj sekcyjaj, siabry katoraj, vučni I i II kl. himnazii, čytali pabiełarusku, pisali dychtoŭki, vučylisia vieršy i h. d.; raz u miesiac rabiłasia dla ich viečarynka z deklamacyjami, śpievami i hulniami.

U Horadni HHBM staviŭ nastupnyja pjesy: „Pa revizii", „Modny Šlachciuk", „Pastušok", „Strachi", „Michałka" i „Varožba cyhanki". Čatyry apošnija byli pierałožany z polskaj movy L. Sivickaj.

Na pravincyi, u dvare Kryštaparova kala Novaha Dvara, pastaŭlena była pjesa „Pa revizii" i ŭ dvare Dubnica, Sakolskaha pav.—„Modny Šlachciuk". Paśla hetaha druhoha pradstaŭleńnia arhanizatary byli zmušany ahraničyć svaju dziejnaść na pravincyi, bo prabyvajučy ŭ toj čas u Dubnicy manach danios ab pradstaŭleńni palicyi, jakaja sroha pačała śladzić i zrabiła spravu, katoraja dajšła da samoha hubernatara. Tam adnak, dziakujučy zachadam pryjacielaŭ biełaruskaje moładzi, spravu hetu ŭdałosia schavać „pad sukno".

*) Usie danyja ab H.H.B.M. uziaty z uspaminaŭ ab H.H.B.M. L. S—š, źmieščanych u „Студэнскай Думцы" № 3 i 4 за 1925 г.

Na viečarynkach i pradstaŭleńniach vystupaŭ chor i čytany byli lekcyi.

Praca ŭ hurtku, pamima adychodu jaho pieršych kiraŭnikoŭ, što-raz bolš raźvivałasia i ŭ 1913 hodzie hurtok hety pastanaviŭ vydać adnadnioŭku, u redakcyjnuju kamisiju jakoj uvajšli: A. Zianiuk, J. Levicki, L. Sivickaja, M. Babrykoŭna i F. Łabianiec. Adnadnioŭka vyšła, jasna, nielehalna, była jana nadrukavanaja nočču na šapirohrafie ŭ liku 50 ekzemplaraŭ p. n. „Kołas biełaruskaj Niwy“. Abyjmała jana 15 bačynak farmatu piśmiennaha arkuša.

H.H.B.M. isnavaŭ ad 1909 da 1914 h., h. zn. da vybuchu ŭsiaśvietnaj vajny. Pracaj svajej jon vielmi pryčyniŭsia da pašyreńnia biełaruskaha adradženskaha ruchu i ŭzhadavaŭ nia mała mocnych i śviedamych biełarusaŭ. H.H.B.M., isnujučy nielehalna ŭ *rasiejskaj* himnazii, raźvivaŭ u maładych biełaruskich dušach luboŭ da ŭsiaho, što jość *biełaruskaje.* Luboŭ hetu da ŭsiaho svajho pavinien raźvivać dalej ciapier kožny z nas paasobku i ŭsie razam.

Kožny z nas musić być pierad usim patryjotam svaje baćkaŭščyny Biełarusi. Niama čaho nam bajacca svajho šovinizmu, jakoha ŭ nas niama i nia možna nam, pakidajučy ŭsio svajo, raspływacca ŭ internacyjanaliźmie, jaki najchutčej moža pryniaści nam śmierć. Ab hetym my pavinny ŭsie dobra pamiatavać, a asabliva pavinna ŭziać heta sabie pad uvahu biełaruskaja vučnioŭskaja moładź.

Žyćcio nie staić na miescy, a ŭściaž raźvivajecca. Kalaso historyi nia spyniajecca. Niachaj-ža jano nieŭspadzieŭki nie zastanie nas niepryhatavanymi! **J. N.**

# Kastryčnik.

Kastryčnik — 10-ty m-c hodu. U rymlanaŭ — october; franc. — octobre; niam. - Oktober; anh. — october. U respublikanskim kalendary — vendemier — miesiac vinabrańnia.

U słavianaŭ: starasłavianski nazoŭ — listopad, ryjen, październik, hrudień; česki — rijen; serb.— pazdiernik; ras. — oktiabr; polski — październik; ukr. — žovtień.

Biełaruski nazoŭ — kastryčnik — pachodzić ad słova „kastryca“, a heta tamu, što pa ŭsiej Biełarusi ŭ hetym miesiacy sialanie trepluć i češuć lon i kanopli, ad katorych adpadaje šmat kastry, kastrycy. Varta zaciemić, što ŭ Maskoŭščynie narod nazyvaje hety miesiac „hraźnikom“.

U rymlanaŭ miesiac october byŭ paśviačany bohu vajny Marsu. U idy (15-tyja dni) hetaha miesiaca prynosiŭsia Marsu ŭ achviaru koń, katory adznačyŭsia na papiarednich konskich honkach. 11 kastryčnika rymlanie śviatkavali «medetrynalia» ŭ češć Medetryny, bahini medycyny. Na hetaje śviata kožny rymlanin pryhataŭlaŭ sabie bahaty stoł i staraŭsia jak naj-

bolš naješcisia i napicca, bo heta, jak dumaŭ jon, pieraściarahała jaho ŭ budučynie ad roznych chvarobaŭ.

U staražytnych-ža hrekaŭ u hetym m-cy śviatkavali dyjanisyi, uračystaść u češć boha Bachusa (Dyjanisa), katory navučyŭ ludziej vyrablać vino. Dyjanisyi byli vielmi viasiołym i svabodnym śviatam; u im naroŭni z volnymi hrekami prymali ŭdzieł i raby. U časie ŭračystaściaŭ adumysłovy chor pry muzycy i skokach piajaŭ hetak zvany dyfiramb, asablivuju pieśniu ŭ češć Bachusa, u katoraj vyjaŭlalisia sumnyja i radasnyja padziei z žyćcia boha. Z bieham času z dyfirambu vyrasła dramatyčnaja poezija (kamedyja i trahedyja), katoraja ŭ hrekaŭ u V i IV v. da Nar. Chr. dajšła da najvyšejšaj stupieni raźvićcia.

Kastryčnik — siaredni miesiac vosieni i što da svajej pahody byvaje vielmi źmiennym. Na Biełarusi ŭ hetym miesiacy byvajuć hustyja tumany, słata, častyja prymarazki, a časam vypadaje i śnieh. Byvaje praz daŭžejšy čas i ciopłaja jasnaja pahoda, asabliva ŭ pieršaj pałovie miesiaca— babskaje leta,—kali ŭ paŭnacie vyjaŭlajecca pryhostva biełaruskaj vosieni.

Za kastryčnik ubyvaje dnia na 2 h. i 10 minut.

U narodnym kalendary:

Kastryčnik chodzić pa kraju i honić ptušak z raju. U kastryčniku — nasmarkać bahaču, ja svoj snop małaču. Kastryčnik ziamlu bałocić, a les dyk załocić. U kastryčniku śnieh — tolki na hrech. U kastryčniku i chata z dryvami i mužyk z łapciami. Kastryčnik ni kalos ni pałoz nia lubić.

1 (S. s.). Śv. Pokraŭ pytajecca ŭ łotraŭ: dzie vy letavali, dzie vy zimavali, dzie vašyja rukavicy i kažuchi. Pakrovy pryduć, dzieŭcy hołavu nakryjuć. Śv. Pakrovy pakryvajuć: travu listam, ziamlu śnieham,vadu lodam, a dziaŭčat šlubnym čepkam. Nie pakryli Pakrovy (ziamlu śnieham) — nie pakryjuć i Kalady.

III-ja Pračystaja — nakonadni dziaŭčaty hadajuć ab zamužastvie.

4. Na śv. Pranciška šukaje ziarniat u poli myška.

7 (S. s.). Z Siarhieja pačynajecca zima.

22(S.s.).Chto na Kazanskuju žanichajecca,toj nie pakajecca.

26 (S. s.). Źmicier — ziamlu vycier, na hrudy pabiŭ,kab nichto nie chadziŭ. Da Źmitra pasuć, a pa Źmitry pilnujuć. Na Źmitra baba chitra, a pa Źmitry choć anučaj vytry.

28.Symon z Judaju pracu ŭ poli kančajuć,a chaty ahladajuć.

28 (S. s.). Paraskievy Piatničkaj — nia možna praści.

29 (S. s.). Nastusia pačynaje stryhčy aviec.

— Kali list z dubiny i biareziny apaŭ čysta — lohki hod, niačysta — ciažkaja zima.

— Dziady ŭ Źmitraŭskuju subotu (pierad Źmitram) — viačera pa radzicielach. Čaćvier paśla Źmitra — I-yja dziady, subota—II-ja dziady i niadziela paśla Źmitra — III-ja dziady.

*Ul. Paŭ—ski.*




## ЗМАГАРУ.

Ужо сьвітае,
Дзень вітае,
Над краінаю гараць
Сонца коскі, —
На палоскі
На сялянскія глядзяць.
Ажыўляюць,
Пабуджаюць
Вёску цёмную ад сну,
Заклікаюць,
Напяваюць
Нам жаданую вясну.
Ад нядолі,
К лепшай долі,
Гэй, да сонца, у гару!
Ой нябога,
Працы многа,
Табе, браце, змагару!

А. К.

---

**L. Vojcikava.**

# Čamu liścio ŭvosieni mianiaje koler?

—„Nie mahu, nie mahu zrazumieć, ci to vosień źniačeŭku pryšła, ci raźliŭ chto čyrvonuju miedź na zialony aksamit liścia,— ścicha paŭtaraŭ Adaś słovy paeta. — Praŭda, adazvaŭsia jaho siabra Janka paśla chvilovaj cišyni, — jakaja pieramiena! Niadaŭna zialony les, siahońnia zichacić roznymi kolerami: pieralivajecca čyrvań, zołata dy ciomny fijalet.

— Hlań na biarozku, padchapiŭ Adaś, zusim załataja; asina maje krychu śviatlejšy adcienak; klany załacista čyrvonyja, a pad imi kusty barbarysu čyrvonyja, jak kroŭ. Cudoŭny biełaruski les!

Małodšyja braty i siastra Adasia išli moŭčki dy cikava słuchali hutarki. Ich vočy taksama biehali ad dreva da dreva i palilisia biaźmiernym charastvom. Ad času da času adno z ich schilałasia, kab padniać z ziamli apaŭšy listok i dałučyć da ahulnaha vasieńniaha bukietu. Treba-ž było mieć pamiatku, moža apošniaha, vasieńniaha spacyru z darahim staršym bratam: praz niekalki dzion Adaś iznoŭ vyjaždžaŭ u universytet.

Navypieradki pakazvali bratu listočki roznych koleraŭ i adcienkaŭ, ad zusim biełaj paparaci pačynajučy i kančajučy na branzova-sinich listkoch krušyny.

Tolki siaredni Paŭluk, mienš ruchavy, často zatrymlivaŭsia, razhladaŭsia, dy niešta dumaŭ. Vidać nia moh dać sabie rady z dumkaj, jakaja jaho mučyła, bo ŭ kancy machnuŭ rukoj, enerhična padyšoŭ da staršaha brata i paciahnuŭ jaho za rukaŭ.

— Adaś, skažy mnie, bo ja nie mahu zrazumieć...

— Čaho nia možaš zrazumieć?

— Čamu heta ŭvosieni na adnym drevie liścio žoŭtaje, a na druhim čyrvonaje abo navat na adnym i tym samym maje roznyja kolery?

— A... voś što ciabie cikavić! Značycca chočaš viedać, čamu liścio ŭvosieni mianiaje zialony koler na inšyja? Dobra. A skažy mnie, ci chto z vas viedaje, čamu liścio maje zialony koler?

— Nie, nia viedajem...

— Dyk słuchajcie ŭvažna. Kali razhledzim listok, abo navat maleńkuju jaho častku praz mikraskop, heta značyć praz škło, jakoje pavialičyvaje kožnuju drobnuju reč da tysiačy razoŭ, to pabačym u tkani listka maleńkija puzyrki, a ŭ ich jašče mienšyja kulački, jakija nazyvajucca „cielcami zieleni".

— I heta jany achvarboŭvajuć liścio na zialony koler? — kinuŭ niechta.

— Ale. U kožnym „cielcy zieleni" jość dva kolery — zialony i žoŭty. Adno liścio byvaje ciamniejšaje, druhoje śviatlejšaje, zaležna ad taho, jakoha koleru maje ŭ sabie bolš, žoŭtaha ci zialonaha. — A skažecie mnie, kali naahuł liścio byvaje śviatlejšaje, rana viasnoj ci paźniej, letam?

— Rana—viasnoj.

— Praŭda, a heta dziela taho, što tady ŭ im jość bolš koleru žoŭtaha, čym zialonaha. Paśla z kožnym dniom prybyvaje bolš zieleni i liścio ciamnieje. — Ale viedajecie što? Vierniemsia ŭžo da chaty i zrobim z vami dośled: vyciahniem z liścia cielcy zieleni i razłožym ich na kolery.

— O! dobra, dobra! Jak heta cikava budzie!

I chutka vuzieńkaj lasnoj ściežkaj pajšli ŭsie da chaty. Niedaloka było jści, bo chata ich stajała pad samym lesam, u vianku załacistych, strojnych biaroz. Zachodziačaje soniejka haračym bleskam malavała vokny, byccam hetaj łaskavaj piaščotaj kazała „dabranač".

Naša hramadka paśpiešna ŭvajšła ŭ chatu. Adaś pałažyŭ na stale paru pryniesienych zialonych listkoŭ i pačaŭ rabić patrebnyja pryhataŭleńni. Prynios škłany słoj z pakryŭkaj i butelku sa śpirtam. Pałažyŭ u słoik liścio, zaliŭ śpirtam až da vierchu i zakryŭ słoik pakryŭkaj.

— Ciapier krychu pačakajem, — skazaŭ Adaś. Usie sieli kruhom stała i nie addymali vačej ad słoika. Čakać pryšłosia nia doŭha. Paśla niekalkich minut śpirt pačaŭ zielanieć.

— Bačycie, jak chutka zialony koler raspuskajecca? — Pačakajem ciapier da zaŭtra i tady pahladzim, što budzie.

Nazaŭtra z samaj ranicy jznoŭ usie sabralisia, cikavyja praciahu dośledaŭ. Akazałasia, što śpirt u słoiku zrabiŭsia ciomna-zialony, a liścio amal nia biełaje.

—Ciapier addzielim koler zialony ad žoŭtaha—skazaŭ Adaś. —Vyniaŭ liścio i na śpirt naliŭ aściarožna krychu benzyny. Benzyna lahčejšaja za śpirt, nie źmiašałasia z im, a tolki lahła źvierchu roŭnym płastam i ŭ chutkim časie pačała pryjmać žoŭty koler.

— Heta, bačycie,—abjaśniaŭ Adaś,—žoŭty koler, jaki nie raspuskajecca ŭ śpircie, raspuskajecca ŭ benzynie. Krychu pačakaŭšy byli ŭ słoiku dva płasty: adzin, nižejšy, zialony, a druhi, źvierchu, žoŭty. Usie byli zachopleny ŭdačnym doślsedam, a Adaś kazaŭ dalej.

— Cielcy zieleni całuju viasnu i leta pracavali biez pierarvyu, zabirajučy z pavietra tyja jaho častki, jakija nieabchodny dla žyćcia raściny. Pryjšła vosień, cielcy pastareli, asłabieli i spłyli ŭ hłyb raściny, žoŭty koler, jak silniejšy, astaŭsia.

— Aha, i dziela hetaha liścio robicca žoŭtaje?

— Tak. Ale z časam i žoŭty koler pačynaje ciamnieć, zamiraje, a tady liścio apadaje.

— Dobra, a čamu-ž niekatoraje liścio byvaje nia žoŭtaje, a inšych koleraŭ?

— Zaraz skažu vam i ab hetym.—Zialony koler uvosieni pad upływam sonca pieramianiajecca ŭ inšyja biazkolernyja ciеły, jakija ŭ niekatorych varunkach mohuć nabrać niejkaha inšaha koleru. Naprykład, kali liścio maje ŭ sabie kvas, jak ščaŭja, barbarysu i inš., to hetyja biazkolernyja cielcy złučanyja z kvasami—čyrvaniejuć. Kali liścio maje jšče inšyja składovyja častki, to jano sinieje; a ŭsio heta dziejecca pad upływam sonca.

Dzie sonca aśviatlaje i hreje macniej, tam pieramiena cielcaŭ zieleni i złučeńnie ich z inšymi ciełami adbyvajecca chutčej. Byvaje jznoŭ, što ŭ vadnym liściu spatykajucca dva kolery, napr. čyrvony i sini, tady pry ich złučeńni liścio pryjmaje koler filatovy. Kolery čyrvony i žoŭty, spatkaŭšysia, achvarboŭvajuć liścio na pamarańčovy koler.

Pryhožyja kolery liścia zaležać ad pahody. Čym ciaplejšaja vosień, tym pieramiena ciełak u liści adbyvajecca bolš pravidłova i tym pryhažejšyja byvajuć kolery liścia...

— Nu, što-ž Paŭluk, ty zdavoleny?

— Ja dumaju,—pavažna adkazaŭ Paŭluk. Jak heta pryjemna razumieć usio, što kruhom nas robicca, a nie razumiejučy, chodziš, jak ślapy.

— Dziakujem tabie, Adaś, — zakončyli ŭsie prysutnyja.

# На начлезе.

Летні вечар... цямнее... На захадзе чырваньню пажараў дагарае зара.

З-за лесу выплывае вялізны, жоўта-чырвоны месяц.

Заціхаюць апошнія гукі дня... на парозе стала ноч.

Ціхая, цёплая, летняя ноч...

Як быццам без ахвоты, ціхі вецярок прабяжыць і зьнікніць. Сьпелае жыта трывожна зашуміць, закалышыцца і зноў цішыня... жывая ціш летняй ночы, поўная нейкіх таёмных шолахаў, з ціхім манатонным звонам камароў.

Сьпяць начлезьнікі зморaныя працоўным днём, тольк

фыркаюць, баролючыся ад дакучных камароў, спутаныя коні, ды стары вартаўнік, дзядзька Марцін, ніяк ня можа ўзяць агню да люлькі. Урэшце ўзяў... закурыў.

Закруціўся сівой стругавінай, падымаючыся ўгору, дымок. Запахла вострым пахам чобару і табакі.

Воддаль, над балотам, нечым спуджаная, цягуча, тужліва і рэзка закрычэла каня.

—Пі-і-і-гі, пі-і-і-гі—панялося над паўсонным прасторам.

— Зноў бедная просіць, — хутчэй да сябе, чым да мяне,—прагаварыў дзязька Марцін.

—Чаго просіць?—Запытаў я ў ток Марціну, разумеючы, аб чым ідзе рэч.

— Дожджу ў Бога, — адказаў той.

— А нашто ей дождж?

— Як нашто? — а піць?

— Дык ці—ж мала рэк і вазёр? — скваплива дадаў я прачуваючы тут нейкі сказ.

— А ці-ж бачыў хто, каб каня піла з ракі ці возера?— адказаў пытаньнем Марцін.

— А чаму яна ня п'е?

— Бо ей забаронена, — пэўным тонам дакончыў Марцін і змоўк. Змоўк і я, знаючы, што просьбай ня хутка дапнеш мэты.

Месяц падняўся і пабрыў праз набягаючыя, лёгкія хмаркі.

Марцін сядзеў на кургане і скіраваўшы кудысь бяз мэты ўдаль погляд, аб чымсь думаў і курыў люльку.

Месяц, блукаючыся ў бродні хмар, кідаў на ягоны твар блеклыя косы. І мне нейкай дзіўнай і незнаёмай здавалася, у прасьвеце месячных кос, галава Марціна. Сухашчава шырокі твар, з вялікімі, сівымі брывамі, з глыбока сядзячымі вачыма, з вялікім простым носам і пышнай сівой барадой.

Нейкай дзіўнай сілай веела ад гэтай старой чалавечай фігуры. Здавалася, быццам ня дзядзька Марцін на кургане, а нейкі патрыярх, ці старасьвецкі мудрэц у глыбокім разважаньню тайніцаў жыцьця.

І нейкай дзіўнай і таёмнай красой, створанай гульнёй ценяў і месячных кос і незнаёмаю магутнасьцю веела ад гэтай, добра мне знанай, старой фігуры. Быццам рой дум, маленькай, празрачыстай хмаркай, ад яго галавы віўся сівы дым люлькі.

— Было гэта даўно, калі ня было йшчэ рэк і вазёр — загутарыў, перарываючы маўчаньне Марцін, і такая пэўнасьць была ў яго мове, быццам ён сам быў сьведкам таго часу.

І ня было чым пагасіць смагу, — цягне далей Марцін— кромя дажджоў і расы.

— І пачала ўся жывёла, зьвярына і птушкі прасіць у Бога вады.

— І сабраў Бог усю жывёлу, зьвярыну і птушак. І за-

гадаў ім капаць першую вялізарную раку, ад якой пайшлі ўсе рэкі і вазёры.

І пачалі ўсе згодна працаваць. Адна каня ўзбунтавалася: —

— Не хачу працаваць, — кажа, ды й годзі, — ня трэба мне рэк і вазёр. Хопіць мне дажджоў і расы на ўсё жыцьцё, а каму трэ', — хай капае.

— А ў душы была думка: — хай капаюць... вартаваць вады ня будуць, выкапаюць —скарыстаю й я. —

І даведаўся аб гэтым Бог, і паклікаў каню на суд, — паважна і ўрачыста кожнае слова Марціна, быццам перад ім стаіць бунтарная каня і ён пакліканы яе судзіць.

І запытаў яе Бог: —чаму ня хочыш капаць ракі?

— Ня трэба мне яе, Божа — адказала каня.

— Хопіць мне на ўсё жыцьцё рос дажджовых..., нашто буду працаваць на кагось? —

І сказаў ёй Бог:

За гэта, што ты ўзбунтавалася супроць майго загаду... За гэта, што адмовілася ад агульнай справы... за гэта, што не захацела працаваць з усімі і на ўсіх...—за гэта табе і ўсяму твайму племю заўсёды будзе горкай вада рэк і вазёр...

З гэтага часу, табе і ўсяму твайму племю, ні адна капля вады з рэк і вазёр, не заспакоіць смагі аж да канца сьвету...

— За гэта, з гэтага часу, ты і ўсё тваё племя будзе гасіць смагу толькі расой... За гэта будзе мучыць вас смага ад расы да расы... і па вадзе хадзіць будзеце і не супакоіце яе.

— З гэтага часу аж да канца сьвету...—

Змоўк Марцін... вытрас аб пугаўё попел з люлькі і пачаў зноў накладаць табакай.

Я ляжаў з замкнутымі вачыма і ў маіх думках праходзілі абразы жорсткага суду.

Здавалася, быццам ня каня, а я стаяў перад аблічам срогага судзьдзі.

Быццам не яе, а мяне вінавацілі ў бунце супроць агульнай справы.

Быццам не над каняй, а над маей вінавата схіленай галавой, урачыста і срога, гучэў жорсткі прысуд справядлівага Бога.

— З тае пары — пачаў зноў, закурыўшы Марцін,

— як толькі сухавея і няма расы, —лётае бедная каня і тужліва просіць у Бога — піпь-піць-піць.

Кароткая летняя ночка дабягала да канца...

Доўга яшчэ штось гутарыў дзядзька Марцін. Пад яго гутарку я пачаў драмаць і ў паўдрэме сьнілася мне, быццам мяне пячэ прагавіта — няўтольная смага.

Быццам ня каня, а я лётаю над заснуўшым прасторам родных палёў і ўсьцяж тужліва і рэзка прашу ў кагось піць-піць-піць.

**М. Машара.**

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Паседжаньне Цэнтральнага Ураду Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры** адбылося 8 г. м. у Вільні, на якім уложаны плян працы на найбліжэйшую будучыню. У зьвязку з прыпадаючымі ў 1936 г. дзесятымі ўгодкамі існаваньня Інстытуту пастаноўлена выдаць адумысловую кніжку-альманах. Супрацоўнічаць у гэтым зборніку далі сваю згоду бел. культурныя і грамадзкія дзеячы, старэйшыя і малодшыя.

**Новы Гурток Бел. Інстытуту Гасп. і Культ.** нядаўна заснаваўся ў Дэлятычах, Наваградзкага павету. Жадаем яму ўдачы ў працы.

**Новым сэкрэтаром у Бел. Навуковым Т-ве,** на месца памёршага д-ра М. Ільляшэвіча, выбраны на паседжаньні дня 7 г. м. адв. М. Шкялёнак.

**Беларусы на Славістычным Кангрэсе.** У Славістычным Кангрэсе (Усеславянскім навуковым Кангрэсе), які адбыўся 23—27 м. м. ў Варшаве, ад імя Бел. Навуковага Т-ва бралі ўдзел др. Я. Станкевіч і В. Грышкевіч.

**Культурныя беларускія сілы павялічваюцца.** Сёлета скончылі навукі на Віленскім Унівэрсытэце грам. М. Мілючанка аддзел гісторыі і грам. Я. Шутовіч—аддзел права і грамадзкіх навукаў. Новым беларускім культурным сілам жадаем удачы ў іхняй далейшай жыцьцёвай падарожы!

**Нямецкі вучоны ў Беларусаў.** У мінулым месяцы адведаў Беларусаў пад Польшчай учасьнік міжнароднага геаграфічнага Кангрэсу, каторы сёлета адбываўся ў Варшаве, нямецкі вучоны др. Бруно Плечкэ. Адведваючы Браслаўшчыну, др. Б. Плечкэ быў у, суседзтве жывучага, беларускага паэта Міхася Машары.

**З жыцьця рэд. „Шляху Моладзі“.** Апошнім часам нашу рэдакцыю адведалі з правінцыі нашы супрацоўнікі, беларускія паэты. М. Машара, Я. Быліна, В. Катовіч, Я. Невук і А. Бярозка. Я. Невук ня так даўно вярнуўся з вышэйшых навук у Францыі, а А. Бярозка кончыўшы сёлета адну з польскіх правінцыянальных гімназіяў пасупае на далейшыя навукі ў Віленскі Унівэрсытэт.

**З выдавецкае нівы.** Апошнімі днямі вышлі з друку: „*Беларускі Адрыўны Календар на 1935 г.*“, выданы Бел. Кнігарняй „Пагоня“, Ст. Станкевічам і Ул. Манкевічам, а надрукаваны Беларускай Друкарняй ім. Фр. Скарыны ў Вільні. Календар гэты мае два стылі: каталіцкі і праваслаўны; зьме-

---


*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч**

шчана ў ім многа карысных радаў, цікавых вестак, жартаў і прыгожых вершаў. Цана аднаго экзэмпляра календара 55 гр. Хто будзе купляць больш, дастане вялікую ўступку. Моладзь беларуская павінна пастарацца, каб календароў гэтых было на правінцыі ўсюды паддастаткам і каб ня было так, як у прошлым годзе, што за беларускі календар прадаўцы бралі замест 60 грошаў па 1 зл. а то і па 1,20 зл.;

*„Баўтручок“* — беларускі народны твор, запісаны грам. М. Шылам. Кніжка мае 16 бачын і каштуе 20 гр.

*„Беларуская Борць“* № 2-3 — месячнік пчалярства і мядовалекарскіх зёлак. Адрас рэд.: Вільня, Каралеўская вул. 3—8

Зьмест № 2-3 „Б. Б.“ 1) Ад Т-ва „Пчала“, 2) Перад зімой, 3) Зімоўкі для пчол, 4) Перахоўваньне і ператапліваньне вашчын, 5) Зьбірайце воск, 6) Як ачысьціць дэнатураваны цукар для п-ол, 7) Мёдадайныя расьціны, 8) Голас пчаляра са Стаўпеччыны, 9) Збор і сушка карэньняў, 10) Календар зборкі зёлак на кастрычнік і лістапад, 11) Мёд, як лякарства, 12) Скуль узяліся пчолы (фэльетон), 13) З чужога жыцьця, 14) З нашага жыцьця, 15) Хроніка, 16) Паштовая скрынка і 16) Абвесткі.

**Часопісь для беларускіх дзетак.** У хуткім часе мае выйсьці першы нумар беларускае часопісі для дзяцей п. н. „Пралескі“. Выдаўцом яе мае быць Ст. Глякоўскі, а рэдактаркай грам. Л. Войцікава, б. рэд. „Заранкі“. Цана падпіскі на год усяго 1 зл. Адрас рэд. „Пралескаў“: Вільня, Завальная 1—3. Новаму выдавецтву жадаем доўгавечнасьці і розрасту!

## Usiačyna.

**Revalucyja ŭ Hišpanii.** Z pryčyny źmieny ŭradu 7 h. m. u Hišpanii vybuchła zabastoŭka, a paśla revalucyja, z katoraj dumała skarystać Katalonija, jakaja ŭžo daŭno zmahajecca za niezaležnaść. Z hetaj metaj staršynia aŭtanomnaj Katalonii 7 h. m. abvieściŭ Kataloniju niezaležnaj dziaržavaj, katoraja, na vialiki žal, tryvała tolki 11 hadzin, bo hien. Batet, katalonski renehat, arużnaj siłaj zdušyŭ pieršyja dziejańni maładoj dziaržavy. Zmahańnie adnak pradaŭžajecca dalej i kataloncy zaŭziata baroniacca, revalucyja taksama jašče nia zusim zdušana, choć urad maje pieravahu.

**Zabojstva juhasłavianskaha karala.** 9 h. m. u Marsylii ŭ Francyi juhasłavianskija terorysty zabili juhasłavianskaha karala Aleksandra I, katory pryjechaŭ u Francyju na palityčnyja pierahavory. Pry hetym zabitymi akazalisia jašče francuski ministr zahraničnych spraŭ Bartou, jaki jechaŭ razam z karalom, a tak-ža dva hienerały i raniena 8 asob z publiki. Usich strełaŭ terorysty addali kala 30. Adzin z terorystaŭ zabity, rešta ŭciakli. — Zabojcam karala Aleksandra, pavodle hazetnych viestak, źjaŭlajecca kupiec baŭhar Piotra Kelemen, praŭdzivaje proźvišča jakoha jość Vlada Georgjev. Naležaŭ jon da Makiedonskaha Revalucyjnaha Kamitetu. Apošnim časam, vyjechaŭšy z Juhasłavii, byŭ jon u łučnaści z charvackimi emihrantami i razam z imi dakanaŭ zamachu na karala, padčas jakoha i sam zhinuŭ. U skład Juhasłavii, jak viedama, uvachodziać Serby, Charvaty, Słaviency i Makiedoncy, u małoj kolkaści i Baŭhary. Vierchavodziać u Juhasłavii Serby, a Charvaty i Makiedoncy zmahajucca za svaju niezaležnaść.

**B. Taraškievič aryštavany?** Hazety pišuć, što byccam B. Taraškievič, jaki niadaŭna, dziakujučy vymienie viaźniaŭ рарай u SSRR, užo tam aryštavany kamunistami.

**Aperacyja serca.** Saviecki chirurg Błahovieščanski niadaŭna ŭ Leninhradzie rabiŭ aperacyju serca, prabitaha navylat nažom. Sšyćcio serca tryvała 15 minut, paśla adbyłosia pieraliccio kryvi dla chvoraha i pa niejkim časie jon zusim vyzdaravieŭ

**Padvodnaj łodkaj naŭkruh śvietu.** Halandcy ŭ chutkim časie majuć vyjechać na padvodnaj łodcy „K. XVIII" ŭ padarož naŭkruh śvietu. Padarož heta maje tryvać 7 miesiacaŭ.

**2.100 novych hydraplanaŭ.** Złuč. Št. Paŭnočn. Ameryki ŭ chutkim časie majuć prystupić da budovy 2.100 novych hydraplanaŭ (samaloty, jakija mohuć pływać).

**Vajna zarazkami.** Pavodle hazetnych viestak, Niemcy hatujučysia da vajny robiać vialikija staranni, kab možna było vajavać zarazkami (bakterjami) roznych zaraznych chvarobaŭ, raśkidajučy ich pa niepryjacielskich miestach i vioskach, a pieradusim kazarmach.

**„Śvietlany kulamiot".** Hazety pišuć, što byccam inž. Kielhaus u Paryžy vydumaŭ taki kulamiot, jaki budzie stralać, nia kulami, a śvietlanymi pramienniami, katoryja zmohuć u praciahu niekalki sekund źniščyć całuju armiju, abo zatrymać latučy samalot ci jedučy samachod. Z kulamiotam hetym adbylisia ŭžo byccam udačnyja proby.

**Vialikaja katastrofa ciahnikoŭ** zdaryłasia niadaŭna kala Krakava, u časie jakoj 10 asob zabita i mnoha raniena.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

Латвійскаму. За ўсё ад душы дзякуем. Просьбу нажаль зможам толькі часткова выпаўніць, бо ня ўсе прошаныя Вамі нумары самі маем. Усё пашло ў народ, асталося толькі па пару гадаўікоў. Прысланыя матэрыялы выкарыстаем. Просім не забываць!

М. Машары. Атрымалі мы апрацаваную Вамі народную казку „Каза Дзераза" — вельмі прыгожая, будзем старацца яе надрукаваць

Я. Невуку. Пісьмо, матэрыялы і пачку атрымалі. Гэту апошнюю перадалі разам з пісулькай. Грошай не атрымалі і таго чалавека, які меў іх нам перадаць, ня бачылі і просьбы ня споўнілі. Адзін з прысланых вершаў, датасаваўшы да вымогаў цэнзуры, ужо друкуем, рэшту зьмесьцім пасьля.

А. К. Вашы вершы нішто-сабе, будзем друкаваць. У вершы „Змагару" змушаны мы былі зрабіць маленькую папраўку з прычын цэнзуральных. Вы зрабілі вялікі поступ. Пераданых пару гадоў Вашых нам вершаў ня можна раўняць з цяпер прысланымі і калі так пойдзе далей, дык Вы займеце адно з самых паважных месц сярод нашых маладых паэтаў. Радзім Вам працаваць далей над сабой і пісаць, не забываючы аб нас.

Я. Вількоўшчыку. Нарэшце атрымалі доўгажданае пісьмо і матэр'ялы, дзякуем, будзем карыстаць у наступных нумарох, бо ў гэты ўжо было запозна. Ранейшае пісьмо перадалі па адрасу.

Я. Кавальчуку. Вершы слабыя і да друку не падходзяць, радзім аднак пісаць, чытаючы як найбольш беларускіх кніжак, а перадусім трэба Вам пазнаць беларускую граматыку і правапіс.

Я. Гр. Вершы слабыя, але можа паправіўшы, каторы-небудзь надрукуем, „Ш. М." высылаем Вам праз увесь час акуратна. У справе недаручаньня Вам часопісі будзем рэклямаваць у Дырэкцыі Почт.

**Niedalokamu. Padpisku atrymali časopiś vysyłajem akuratna, karespandencyju pieradajom u „B. K." Knižka Vam vysłana. U spravie niedaručańnia bieł. hazet budziem reklamavać razam z red. „Bieł. Krynicy".**

**P. R—ku. Pačku i piśmo atrymali, ščyra dziakujem.**